*“Для чалавека няма няшчасця жудасней рабскага лёсу” (Сафокл)*



# ШКЛОЎ-*інфо*

**№4** (106) люты 2015

ПАЗНАВАЛЬНА-АНАЛІТЫЧНАЯ МЯСЦОВАЯ ГАЗЕТА

*Выходзіць 2 разы ў месяц* *Заснавана ў ліпені 2009 г.*

Следственные органы Могилевской области расследуют уголовное дело бывшей управляющей делами Шкловского райисполкома, которая обвиняется в хищении путем злоупотребления служебными полномочиями. **Л.Глякова** подозревается в хищении 29 миллионов рублей. В настоящее время она находится под стражей и частично признала свою вину.

В апреле в Беларуси ожидается очередное **подорожание проезда** в общественном транспорте. В регионах цены вырастут на 14-16%, и талончик будет стоить около 4-х тысяч вместо нынешних 3 500 рублей. Проезд в пригородных автобусах подорожает на 10-15%. Вырастут тарифы и на проезд в поездах региональных и межрегиональных линий. Подорожание пройдет в два этапа: на 30-35% – в апреле, а потом на столько же – в июле. Проезд в областях последний раз дорожал в августе прошлого года, в Минске – в декабре 2014-го. Министр транспорта и коммуникаций Анатолий Сивак также заявил, что рассматривается вопрос об увеличении штрафов за безбилетный проезд.

15 сельскохозяйственных предприятий **Могилевской области** сработали с убытком в 180 млрд рублей. В Быховском, Климовичском, Кличевском, Кричевском, Чаусском районах снижается поголовье крупного рогатого скота. В областной прокуратуре считают, что решение проблем во многом зависит от координации местными властями деятельности сельхозорганизаций.

## КОЛЬКІ ВЯРОВАЧЦЫ НЕ ВІЦЦА ...

**29 студзеня 2015 году ў час правядзення прэс-канферэнцыі для журналістаў беларускіх і замежных СМІ А.Лукашэнка заявіў, што да канца свайго прэзідэнства не адмовіцца ад сацыяльна арыентаванай мадэлі ў развіцці дзяржавы.**

**«Та модель, которая была у нас с вами и существует до сих пор, мы от неё не отказываемся. Мы называем её социально ориентированной, то есть в центре стоит человек. Я от неё не откажусь до конца своего президентства. Мы эту модель нащупали, мы эту модель создали, мы этот путь определили и по нему надо идти, не шарахаясь, особенно в период кризиса», - адзначыў ён.**

Чытаючы падобныя выказванні кіраўніка краіны, міжволі ўсплываюць успаміны аб падзеях 60-х, 70-х, 80-х гадоў мінулага стагоддзя, калі разнастайныя лідары камуністычнай партыі Савецкага Саюзу такім жа чынам заяўлялі аб пабудове дзяржавы, дзе забяспечаны клопат аб кожным савецкім чалавеку. У часы Савецкага Саюзу, як і зараз у незалежнай Беларусі, таксама прымаліся самыя разнастайныя праграмы, накшталт – Харчовай, або Жыллёвай. Некаторыя кіраўнікі краіны нават заяўлялі аб хуткай пабудове “камунізму” з галоўным яго прынцыпам – “ад кожнага - па здольнасцях, кожнаму - па патрэбе”, а чыноўнікі меншага маштабу ва ўвесь голас падпявалі ім. І як заяўлялі тагачасныя лідары, у цэнтры савецкай сістэмы таксама знаходзіўся чалавек. Як паказаў час, і сапраўды, для некаторай катэгорыі грамадзян Саюзу камунізм быў усёжтакі створаны. У гэты разрад пападала высокапастаўленае партыйнае чынавенства, для якіх і было арганізавана забяспячэнне па поўных іх патрэбах. Для асноўнай жа часткі грамадзян усё гэта так і засталося на ўзроўні мараў…

Канешне, сучасныя магчымасці грамадзян Беларусі ў забяспячэнні сваіх патрэбаў непараўнальна вышэйшыя за магчымасці часоў Савецкага Саюзу.

Але ж прынцып сацыяльнага размежавання грамадзян з забяспячэннем яго на карысць высокапастаўленага беларускага чынавенства за кошт бюджэтных сродкаў у нашай краіне да гэтай пары захаваўся.

Як і ў савецкія часы, беларускае чынавенства зноўку прымае на кожную пяцігодку самыя разнастайныя праграмы развіцця і рэфармавання розных галін эканомікі і сацыяльнай сферы з мэтай павышэння ўзроўню жыцця грамадзян краіны, прымае рашэнні па фінансаванні гэтых праграмаў і, як склалася на практыцы, па заканчэнні пяцігодак - забывае адсправаздачыцца перад гэтымі ж грамадзянамі аб іх выкананні, як і аб скарыстанні фінансавых сродкаў.

Колькі, напрыклад, прагучала заяваў аб хуткім поўным пераводзе забяспячэння г.Мінска пітной вадой з падземных крыніцаў. Згодна Дзяржаўнай праграмы “Чыстая вада” на 2011 – 2015 гады,

ў 2013 годзе Мінск павінен быў цалкам перайсці на падземныя крыніцы водазабяспячэня.

Нават тагачасны міністр ЖКГ Андрэй Шорэц, а зараз – старшыня Мінскага гарвыканкаму, яшчэ ў чэрвені 2012 г. заяўляў, што пастаўленая задача – аб завяршэнні пераводу Мінска на падземныя крыніцы водазабяспячэння будзе выканана дзякуючы будаўніцтву водазабора "Вязынка", рэканструкцы іншых вадазабораў. Тым самым вырашыцца пытаннне забяспячэнне падземнай вадой жыхароў Фрунзенскага, Маскоўскага, часткова Кастрычніцкага раёнаў сталіцы, да якіх да гэтай пары пастаўляецца вада з вадасховішча Крылова Вілейска-Мінскай воднай сістэмы.

Сёння на двары ўжо 2015 год, а аб чыстай артэзіянскай вадзе жыхарам гэтых раёнаў застаецца толькі марыць.

Працэсамі фінансавання і выкарыстання дзяржаўных сродкаў па набыццю абсталявання для станцый абязжалезвання вады водазабора "Вязынка", на іншыя водазаборы Мінска, працэсамі будаўніцтва аб'ектаў водазабора яшчэ ў 2012 годзе зацікавіліся Генеральная пракуратура і Камітэт дзяржкантролю Беларусі. Але далей цікавасці справа не пайшла, відаць праца для іх аказалася "не пад'ёмная". Як і праца па вызначэнню маршруту выдзеляемых фінансавых сродкаў на выкананне разнастайных праграм у сферы аказання насельніцтву жыллёва-камунальных паслуг… Толькі канстатацыяй фактаў завяршыліся і іншыя выяўленыя справы аб беспарадках у выкарыстанні фінансавых сродкаў.

Так, напрыклад, 30 мая 2012 года на паседжанні калегіі КДК, тагачасны старшыня А. Якабсон адзначаў у сваім выступе аб шматлікіх фактах беспарадкаў і парушэнняў пры выкарыстанні дзяржаўных сродкаў і маёмасці ў ЖКГ г.Мінска выяўленых па выніках работы за 2010-2011 гады. У 25 праверанных з 182 дзеючых на той час арганізацый ЖКГ горада, неабгрунтаваныя страты склалі 48 млрд. рублёў. Па разліках старшыні КДК агульны памер страт толькі дзяржсродкаў па гораду склаў каля 120 млрд.руб.

І зараз як здзек над гараджанамі гучыць прапанова новага старшыні Мінскага гарвыканкама А.Шорэца да жыхароў сталіцы аб неабходнасці іх далучэння да стварэння так званай "народнай праграмы" па развіцці горада.

Не лепшым чынам адбываецца выкарыстанне чыноўнікамі народных фінансавых сродкаў і ў іншых рэгіёнах нашай краіны.

Як, напрыклад, можна разумець распараджэнне Магілёўскіх уладаў аб неабходнасці набыцця гарадскім водаканалам у 2013 годзе прагулачнага цеплахода за **420 тысяч дал. ЗША**? З якімі мэтамі, менавіта, Магілеўскім водаканалам набываўся дадзены цеплаход, калі ў горадзе існуе цэлае ўпраўленне па спорту і турызму і рачны порт, дзе ўжо меліся два прагулачныя цеплаходы , эксплуатацыя якіх да гэтай пары не акуплялася з-за іх неэфектыўнага выкарыстання? І чаму менавіта за 420 тыс. даляраў, калі падобнага класа цеплаходы з невялікім тэрмінам эксплуатацыі выстаўляліся на продаж у Беларусі па кошце каля 150 тыс. дал.? А зараз як затраты на пакупку гэтага цеплахода, так і страты ад яго эксплуатацыі ( толькі за 2013 год – 280 млн. руб.) кладуцца на сабекошт прадукцыі і паслуг водаканала і ў сваю чаргу – на плечы гараджан у выглядзе "пацяжэўшых жыровак".

На плечы грамадзян краіны перакладваюць свае "вольнасці" чыноўнікі і іншых ведамстваў. Так у сферу мадэрнізацыі аб'ектаў "вялікай" энэргетыкі толькі за 2006 – 2010 гады з розных крыніц фінансавання ўкладзена больш пяці млрд. даляраў ЗША. Але ж грамадзяне не пабачылі ні змяншэння коштаў на электраэнэргію, ні змяншэння коштаў іншых паслугаў.

Толькі, згодна справаздач Міністэрства эканомікі РБ, мадэрнізацыя энэргетычных магутнасцяў з 2006 па 2013 гады прывяла да эканоміі больш 2,3 млрд. кубаметраў прыроднага газу. Але чаму тады пры адсутнасці новаўведзеных аб'ектаў, спажываючых прыродны газ, пры скарачэнні насельніцтва краіны, пры змяншэнні энэргаёмістасці прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў згодна статыстычных дадзеных, мы закупілі ў 2013 годзе па аб'ёму столькі ж газу як і ў 2006 годзе?

Аб фактах безгаспадарчасці на розных узроўнях сферы ЖКГ, што перакладваюцца на плечы грамадзян, ад міністэрстваў да прадпрыемстваў на месцах, як, напрыклад, у Жылкамгасе Шклоўскага райвыканкаму, можна казаць яшчэ вельмі шмат. Побач з цэлым шэрагам карупцыйных фактаў па злоўжыванню службовым становішчам з боку кіраўнікоў і супрацоўнікаў ЖКГ і Шклоўскага райвыканкаму за апошнія 10 год, выяўлены і новыя. Каля 10 год таму назад прадпрыемствам ЖКГ Шклоўскага раёну была закуплена лінія па перапрацоўцы цвёрдых бытавых адыходаў. Але за гэты тэрмін яна так і не была ўсталявана па прычыне неправільнай камплектацыі абсталявання і з часам цалкам прыйшла ў непрыгоднасць. Пры ўсіх "намаганнях" супрацоўнікаў КДК і сілавых ведамстваў Магілёўскай вобласці, вінаватых у дадзенай сітуацыі выявіць так і не ўдалося…

Дык для каго тады А.Лукашэнка

стварыў і захоўвае, як ён кажа, сацыяльна арыентаваную мадэль у развіцці дзяржавы? І які чалавек знаходзіцца ў цэнтры гэтай мадэлі?

Сыходзячы з сітуацыі, склаўшайся ў нашай краіне, у цэнтры стаіць беларускі чыноўнік. А "сацыяльна арыентаваная" мадэль у развіцці дзяржавы забяспечвае яму і ягонай сям'і жыццё па прынцыпу "ад кожнага - па здольнасцях, кожнаму – па патрэбе". І пры гэтым здольнасці яго ўвесь час звужаюцца, а патрэбы толькі пашыраюцца.

Ад "цэнтральнай фігуры" беларускай мадэлі развіцця дзяржавы цвёрда патрабуецца толькі адно – гэта забяспячэнне яскравай перамогі ў час чарговай выбарчай кампаніі. Вось на гэтае яна здольная. Таму і Лукашэнка не жадае адмаўляцца да канца свайго "прэзідэнства" ад створанай мадэлі .

Але ж як кажуць у народзе, колькі б вяровачцы не віцца, а канец будзе, як і з існуючай мадэллю. І што тады будзе рабіць гэтая "цэнтральная фігура"?

*Намеснік старшыні БНФ*
***Р.Кастусёў***

## В тему
## Его величество процент

Каким же образом измерить эффективность работы белорусских чиновников? Как определить степень переживания местного начальства за уровень благосостояния подопечных (подопытных в свете эксперимента под названием «белорусская экономическая модель») граждан, которые 20 лет назад доверили свое будущее этой беззастенчивой своре проходимцев и воров? Кто ответит перед обществом за бездарные годы правления белорусской власти и безвозвратно растраченные интеллектуальные, материальные и финансовые ресурсы государства? И почему до сих пор нынешняя власть не может решить набившие оскомину проблемы – низкий уровень доходов граждан, нарастающие проблемы качества услуг и их дороговизны, сокращение рабочих мест, страх перед консолидацией общества?

Все больше приходит понимание, что именно власть предержащие и есть оппозиция народу (как ни странно, но и Президенту тоже) и главная угроза будущему Беларуси. Даже ярые сторонники режима не в состоянии аргументировать свою любовь к автократическому государству, при этом, не совсем уверенно впадая в экстаз от «лишь бы не было войны» и наслаждаясь возможностью использования материнского капитала через 18 лет. На самом же деле идет жестокая война белорусских чиновников со своим народом, который этих же чиновников кормит-поит-в квартирах содержит-на машинах возит. И их детей тоже.

Представить масштабы разворовывания страны нынешней властью простому народу затруднительно. Перебиваясь с рубля на копейку, работяги и колхозники даже и не мечтают о тех благах, которые автоматически присутствуют в жизни белорусских слуг народа, если эти слуги всегда «одобрямс» любые глупости нынешней власти. А иначе и нельзя, иначе ты уже и не слуга, а тунеядец или сиделец тюремный.

Но ведь как-то власти нужно показывать свою заботу о людях (шикарные особняки в Дроздах не в счет), вдохновлять электорат на посещение пусть и формальных, но выборов! Вот тут и начинаются чудеса пропаганды: с одной стороны, Президент и периодически изгоняемые с должности губернаторы денно трудятся во благо Родины, а вот с другой стороны, Беларусь никак не оценивается мировыми рейтингами в своих стараниях. Например, в очередном рейтинге экономически свободных стран, подготовленном фондом Heritage Foundation и экспертами Wall Street Journal, Беларусь опустилась на три позиции по сравнению с прошлым годом, став 153-й из 178 стран мира. При этом страна вернулась в категорию абсолютно экономически несвободных стран, хотя в прошлогоднем рейтинге нам впервые удалось оказаться в более благополучной категории "преимущественно несвободных". При этом традиционно отмечается, что в Беларуси сохраняется масштабный государственный контроль во многих отраслях, доминирование госинвестиций и перекрестное субсидирование все еще серьезно сдерживают прогресс и развитие экономики. Кстати, последние места рейтинга достались нашим друзьям - Венесуэле, Кубе и Северной Корее. Первые позиции мирового рейтинга, как и в прошлом году, заняли Гонконг (89,6 пункта из 100 возможных), Сингапур, Новая Зеландия и Австралия. Лидером по уровню экономической свободы в Европе традиционно стала Швейцария, занявшая в этом году 5-ю позицию. В десятке "свободных" также Канада, Чили, Эстония, Ирландия и Маврикий. Партнеры Беларуси по Таможенному союзу, Россия и Казахстан, заняли соответственно 143-е (140-е в прошлом рейтинге) и 69-е (67-е) места. Среди европейских экономик белорусская оказалась предпоследней. Самой несвободной в Европе остается Украина 162-я (155-я позиция год назад). Так, может не с теми дружим в конце концов?

Возьмем иное измерение: размер пенсий в долларах – в

Беларуси она сейчас составляет 182 доллара США, уступая по размеру Казахстану, России и Азербайджану. При этом, расходы на социальные выплаты в РБ в целом составили в 2014 г. 14,6% от ВВП. Вроде, показатель не плохой на фоне остальных постсоветских государств. Но обратимся к западным странам: в Германии пенсия 1650 долларов США, в Испании – 1100, в Польше – 460, во Франции - 750. И дело не только в высоком уровне развития экономики – в Польше расходы на социальную защиту населения составляют более 19% от ВВП, в Германии – 29%, во Франции – 33%. Делайте выводы, где более социально ориентированная политика – в процветающей Беларуси или на загнивающем Западе?

Почему %% появились в анализе? Дело в том, что в Беларуси успехи в правлении электоратом измеряются как раз процентами. Так проще – постоянно балансируя около какого-то усредненного уровня значимого для народа показателя, можно создавать иллюзию успешности управления государством и создавать видимость необходимости как раз такого типа правления.

Как пример, размер основного показателя развития Могилевской области - валового регионального продукта - за весь прошлый год не превысил уровня 2013 года. Это информация из провластной газеты, которую народ читает. Статистика менее щепетильна в оценке ситуации – производство валового продукта в 2014 г. составило 97,5% к уровню предыдущего года. А это ведь худший результат в стране. За что губернатора и погнали с должности.

Да и чем занимался бывший губернатор, если из тридцатки хедлайнеров промышленного комплекса области только 16 превысили уровень производства предыдущего года. Наибольшее снижение отмечается на Могилевском вагоностроительном заводе, Бобруйскагромаше, Бобруйском заводе тракторных деталей и агрегатов, Могилевском металлургическом заводе, Электродвигателе.

Однако есть показатели, которые выразить в %% невозможно. Например, по итогам января в Могилевской области образовалась просроченная задолженность по выплате зарплаты за декабрь в общей сумме 16 млрд рублей в 8 организациях четырех регионов. В число задолжавших рабочим вошли Могилевспецавтоматика, Могилевский завод "Строммашина", ОАО "Фандок", Бобруйскстройкомплекс, "Облагропромтранс", филиал стройуправление №86 ОАО "Трест №26 "Железобетонмонтаж" (Могилев) строительная организация "Сектор" (Могилевский район) и Осиповичский вагоностроительный завод. На некоторых предприятиях ситуацию не удается стабилизировать. Так, рабочих на "Строммашине" перевели на 4-дневную рабочую неделю. С 9 февраля на предприятии стоят цеха - в некоторых отключили электроэнергию, у остальных нет работы.

Новый губернатор Могилевской области Владимир Доманевский в лучших традициях советских времен начал инспектирование приданной к креслу территории с замечаний, что не сумели почистить снег с дорожек, по которым он должен ступать державной ногой. Поведение нового губернатора вызывает недоумение – с какого-то перепугу он стал торжественно открывать объекты, к строительству которых никакого отношения не имел. Да и что это за объекты, что за масштабы!? Пожарное депо – оно что, добавит объемов производства? В свое время весь могилевский истеблишмент открывал новое здание прокуратуры в одном из райцентров – показали по ТВ - потеха была на всю республику.

Сейчас по трассе на Мстиславль 6 экскаваторов зарывают в грунт растительные остатки, уничтожая в том числе и гнездовья птиц. Может трасса и будет симпатичнее выглядеть, но экономический эффект в данных телодвижениях власти отсутствует изначально – в общей массе природу не победить, а услаждение ока губернатора изначально преступно. И дело не в птичках, а может и в них тоже, просто эти вещи очень дорого обходятся бюджету.

По итогам 2014 г. ВВП страны увеличился на 1,6% (темп замедлился в 2 раза к уровню предыдущего года), зарплата в долларовом выражении снизилась почти наполовину, а прибыль банков возросла на 11%. Так что проценты у каждого свои – задуматься, похоже, о сути их в стране некому.

***П.Мигурский***

# Дабрыня ходзіць побач, але мы не заўважаем яе

**Хтосці сказаў мудра: "Самыя лепшыя і самыя прыгожыя рэчы ў гэтым свеце нельга ўбачыць ці памацаць. Яы павінны адчувацца сэрцам!**

Нягледзячы на тое, што беларускае грамадства перажывае ня лепшыя часы, людзі нашай краіны ўсё ж такі не страцілі сваёй дабрыні. Мо, хтосьці са мною не пагадзіцца? Тады вось вам яскравыя прыклады, жывым сведкам якіх з'яўляюся асабіста. Тутацькі яшчэ ёсць адзін нюанс: гэтыя

падзеі (ці выпадкі?) адбываліся ў адзін час, што дае мне падставу меркаваць аб тым, што людзей чуллівых і добрых у нас і нямала. Таму не напісаць аб дабрыні людской і іх неардынарных учынках (па сёняшняму “курсу”) я проста не маю маральнага права.

Падзея першая.

Зусім нядаўна я апынуўся на аўтобусным прыпынку каля Палаца культуры “Сукно”. Стрэлкі гадзінніка на цыферблаце пераскочылі лічбу восем у канцы дня. І хаця сонца схавалася за гарызонт даўным-даўно, кастрычніцкі вечар выдаўся цёплым і прыемна-лагодным. Вулічныя ліхтары адкідвалі сваё святло з вялікаю неахвотаю. На прыпынку была поўная пустэча і - ніякай мітусні , а таму ў прыцемках адчувалася нейкая загадкавая цішыня і ўтульнасць. Ведаючы, што аўтобусы ды тралейбусы зараз у Менску ходзяць марудна (ня тое, што раней), я вырашыў падыйсці да слупа з таблічкаю, які стаяў на адпаведнай адлегласці ад месца прыпынку грамадскага транспарту, каб паглядзець інтэрвал руху пасажырскай тэхнікі. Слабыя промні вулічнага свяцільніка амаль не даходзілі да таго месца, дзе можна было б штосьці прачытаць, і я ў разгубленасці павярнуўся назад, у напрамку да скамейкі на пасадачнай пляцоўцы. І толькі я зрабіў некалькі крокаў, як за маёй спіною пачуўся дзідзячы голас:

- Ідземце, мы Вас падвязем.

- І куды вы мяне падвязеце? – са здзіўленнем пытаюся я, павярнуўшыся тварам да падлетка, які нечакана, нібыта анёл, з’явіўся перада мною.

- А куды Вам трэба? – у сваю чаргу запытаў хлопчык.

- А мне трэба да прыпынку мятро “Пушкінская”, – выдаў я сваю “запаветную мару” ветліваму незнаёмцу.

- Падвязем і туды, – скончыў дыялог падлетак…

Крыху далей слупа з раскладам транспартнага руху па горадзе, стаяла легкавое аўто тыпу седан. Мой непаўналетні незнаёмец , годзікаў так дванаццаці, адчыняе для сябе заднюю левую дзверку легкавіка, я – правую заднюю. За “баранкай” сядзіць маладая, прыемная, я б нават сказаў – прывабная, кабета. Побач з ёю – малады чалавек. Наколькі мне падказвала мая логіка, гэта, хутчэй за ўсё, была сямья… Прыгажуня - кіроўца аўто, павярнула да мяне галаву градусаў гэтак больш за сотню ды пацікавілася, куды мне патрэбна ехаць.

- Да станцыі метро “Пушкінская”, – уражаны незвычайнай сітуацыяй ды цёплымі адносінамі да мяне незнаёмых людзей, адказваю камунікабельнай “Незнакомке”.

Аўто кранулася. Язды было на два прыпынку. Маладзіца за рулём пацікавілася, адкуль я.

- З Чэрыкава. – не замарудзіўся я з адказам.

-А якім чынам Вы апынуліся тутацькі? – адарваўшы на секунду вочы ад дарогі, каб “абмацаць” мяне кароткім позіркам, задала наступнае пытаньне “возница”.

- Быў на З’едзе БНФ. Так што Вы вязеце” фашыста”, – пашуткаваў я. На што мая суразмоўца адказала накшталт таго, што ўсі гэтыя БНФаўцы добрыя і прыемныя людзі…

Між іншым, аўто набліжалася ўжо да патрэбнай мне астаноўкі. Легкавік стаў збаўляць ход. Я адчуваў, што грошы прапаноўваць за аказаную мне паслугу зусім будзе некарэктна, і сваімі дзеяннямі я мог толькі збянтэжыць незнаёмых мне, але добрых людзей. Таму я пачаў здалёк: маўляў, “дзякуй” у кішэню не пакладзеш, але… я не паспеў давесці ўслых думку да лагічнага канца словамі “але вялікі дзякуй!”, як гаспадыня аўто хуценька перабіла мяне на палове сказу і засакатала:

-Не-не-не. Ніякіх грошай!

Мне нічога больш не заставалася рабіць, як выказаць шчырую падзяку людзям за іх увагу, дабрыню ды за чуллівыя адносіны да мяне. На развітанне я пажадаў ім сямейнага дабрабыту і ўсяго самага ў іх жыцці найлепшага. На гэтым мы і развіталіся…

Падзея другая.

У той самы прамежак часу, калі гасцяваў у Менску, я ня мог набыць газету “Четверг”. Ня ведаю, з якой прычыны яе не прадаюць у шапіках сталіцы, але ў нашым абласным цэнтры - горадзе Магілёве, ды і ў райцэнтрах гэты друкаваны сродак можна набыць без усялякіх праблем. Выходзіць газета раз на тыдзень. Я імкнуся не прапусціць міма сябе аніводнага нумара. А для таго, каб была прычына лішні раз пабыць у цэнтры свайго любімага старадаўняга горада, адмыслова падпіску на выданне не раблю. Такім чынам ёсць нагода спалучаць прыемнае з карысным: і па гораду пахістацца, і сродак інфармацыі набыць…

Паблукаўшы па Менску ў пошуках чарговага нумара выдання, што атрымалася для мяне безвыніковым мерапрыемствам, я вырашыў звярнуцца за дапамогай аб набыцці “духоўнай ежы” да Алы Казючыц – рэдактара выдання (нумар тэлефона рэдакцыі ў мяне заўжды з сабою). Просьба мая заключалася ў тым, каб яна пасадзейнічала мне аб набыцці ў шапіку майго роднага Чэрыкава чарговага нумара газеты. Бо да таго часу, калі я з’яўлюся ў сваіх пенатах, нерэалізаваныя нумары ужо будуць адсутнічаць. Іх некуды здаюць (куды – ня ведаю). Галоўнае, што ў продажы іх ня будзе. Адказ я атрымаў

неверагодны. Ала Геранімаўна паведала мне, што пасадзейнічаць аб тым, каб для мяне аставілі газету, яна ня можа, але паабяцала сама выслаць патрэбны мне нумар на хатнюю адрэсу па пошце і запісала мае каардынаты.
І што вы думаеце? Ды навошта вам думаць! Я сам адкажу, каб не марудзіць вам галаву. З'яўляюся я у сваім пад'ездзе, гляжу, а ў паштовай скрыні ляжыць вялізны пакет!…
Тутацькі трэба зрабіць акцэнт на тую акалічнасць, што ні я ня ведаю рэдактара "Четверга", і яна мяне і ў вочы ніводнага разу ня бачыла (!!!).
І што мне сказаць нашаму паважанаму чытачу на ўсё гэта? А тое і скажу, што ёсць яшчэ ЛЮДЗІ і ў наш час! Што дабрыня ходзіць побач, а мы яе і не заўважаем?!
ДАВАЙЦЕ БУДЗЕМ РАБІЦЬ ДАБРО РАЗАМ!
***Сямён Панізоўцаў***, г. Чэрыкаў.

# Осудить преступления сталинизма берется народный трибунал

Елена СПАСЮК

**В Беларуси началась кампания по созданию общественного трибунала «Преступления сталинизма».** Накануне ее презентации Naviny.by поговорили с одним из инициаторов трибунала историком **Игорем Кузнецовым**.

**— Для чего Беларуси нужен общественный трибунал?**
Мы хотим обратить внимание общественности на значимость и трагизм событий, которые происходили в Беларуси в период сталинских репрессий. В кампании участвуют члены международного общества «Мемориал», инициатива «За ўратаванне Курапат», движение «Разам», ОО «Курапаты», незарегистрированное объединение «Белорусская ассоциация жертв политических репрессий».

**— Какова цель трибунала?**
Как минимум — заставить людей задуматься о произошедшем в годы массовых репрессий. Мы не призываем к мести, поиску оставшихся в живых сотрудников НКВД. Однако оценку их действиям дать необходимо, исходя из того, что большинство тех, кто вел следствие и даже расстреливал, сами являлись жертвами кровавого режима. Я их не оправдываю, но большинство из них действовали как садисты в силу трагических обстоятельств. Имена жертв и преступников должны быть названы, так как в противном случае история будет снова и снова повторяться. Если люди, работающие в силовых структурах, полагают, что их имена никогда не станут известны, они будут творить преступления. И наоборот — если человек знает, что о содеянном им рано или поздно узнают, будет думать о последствиях своих поступков.

**— На основании чего трибунал планирует выносить обвинения?**
Мы хотим создать электронную «Черную книгу сталинизма. Беларусь», материалы которой станут основой для обвинительного заключения. В нее войдут научные статьи из изданного ранее труда «Репрессивная политика советской власти в Беларуси», авторами которого являются белорусские, российские и израильские историки. Также в книге будут размещены нормативные документы советской власти, на основании которых проводились репрессии, расстрелы и депортации 1919-1953 годов. Найдут свое место и воспоминания очевидцев тех событий. Еще один раздел будет посвящен поименному перечислению установленных жертв сталинизма. На сегодня у нас есть имена 140 тысяч репрессированных с приговором и местом захоронения. В состав редакционной коллегии войдут историки и писатели Анатолий Валаханович, Леонид Моряков, Яков Басин, Василий Хоневич и я. Членами трибунала станут представители международного «Мемориала», правозащитники, а также члены редакционной коллегии. Отмечу, что любой человек может принять участие в работе трибунала. Чем больше людей будет вовлечено в этот процесс, тем быстрее произойдет очищение нашего общества.

**Очевидно, что сам факт появления трибунала будет воспринят неоднозначно. Возникает вопрос, не повлияет ли эта инициатива на то, что раскол в белорусском обществе только усугубится.**
-Не думаю. Скорее, опасно то, что в Беларуси все чаще можно слышать, что к сталинизму невозможно предъявлять претензии, так как в отличие от фашизма его преступления не были доказаны и осуждены. Действительно, ни одна из постсоветских стран не провела суда над сталинизмом. Если государство не берет на себя ответственность дать юридическую оценку тех событий, необходимо дать общественную. Это позор власти и общества в целом, что Беларусь не осудила репрессии хотя бы с точки зрения морали, не признала, что это были преступления против общества, личности. Я не снимаю ответственности и с себя. Наше молчаливое бездействие привело к тому, что мы потеряли даже то, что удалось сделать в начале 90-х.

**— В Беларуси не только не осуждены преступники, но и достойным образом не увековечена память жертв, не так ли?** К сожалению, это так. Чтобы было по-другому, необходимо издать соответствующий законодательный акт, который бы обязал государство создать памятные знаки жертвам репрессий, а также содействовать в Беларуси массовому поисковому движению по установлению жертв сталинизма. В Куропатах необходимо создать музей и поставить достойный монумент памяти жертв сталинизма. Там до сих пор нет памятного знака, а был закладной камень с надписью о том, что памятник будет установлен. Табличка дважды исчезала. Теперь по решению общественности поставили камень, на котором выбита надпись «Жертвам сталинизма». Между тем расстреляны в Куропатах десятки тысяч человек. В Беларуси с 1994 по 1996 год была свернута вся работа по увековечиванию памяти жертв репрессий и научного изучения проблемы. Была ликвидирована группа по изучению репрессий в Академии наук, комиссия по реабилитации в составе Верховного Совета. Тема практически не присутствует в СМИ. В этом году исполняется 75 лет со времени расстрела офицеров польской армии в Беларуси. Мы хотим объявить 2015 год годом Белорусского катынского списка. В нем имена не менее чем 3870 поляков, убитых НКВД на территории Беларуси в 1940 году. Отмечу, что точное место расстрела неизвестно, а среди погибших есть и наши соотечественники. По моим оценкам, в ходе операции было убито около 9 тысяч человек, гражданские лица в том числе. Память о них — табличка на сосне в Куропатах, на которой написано «Памяти уроженцев Беларуси — военнослужащих польской армии, расстрелянных НКВД в 1939-1941 годах». **Возможно, память жертв репрессий игнорируется, так как в последние годы создается впечатление, что проблема сталинских репрессий волнует очень небольшую часть общества?**

— У нас нет культуры памяти, так как над этим целенаправленно поработали большевики. За последние 20 лет в Беларуси выросло поколение людей, которые не знают ни что такое Катынь, ни Куропаты и вообще не представляют масштабы трагедии, которая произошла на нашей земле в годы массовых репрессий. Между тем редкую семью в Беларуси они не затронули. Невозможно найти правду, если не помнить о том, что происходило до нас. Нельзя возродить нацию и культуру без памяти о предках, не только времен Великого княжества Литовского, но и более близких поколений. А с людьми, которые не помнят своего прошлого, можно проводить любые социальные эксперименты, что проходит на нашей территории довольно успешно. **Однако события последних лет показывают, что история ничему не учит. Достаточно посмотреть на происходящее в Украине. В российском обществе получила признание идея «Крым наш». В Беларуси, судя по социологическим исследованиям, она вполне прижилась.** Здесь играет роль политическая воля. Например, в Польше создан институт национальной памяти, предпринимаются различные меры на государственном уровне. В результате, отношение к национальным святыням, истории и культуре заслуживает того, чтобы перед ними преклоняться. Приходится признать, что восточные славяне действительно мало восприимчивы к урокам истории. И трудно понять, как в странах, переживших трагедию Второй мировой войны на своей территории, могут зарождаться организации и идеи фашистского толка. **На ваш взгляд, почему в общественной и научной сферах Беларуси находит место история фашизма, но не сталинизма?** Думаю, потому, что исторические параллели со временем сталинизма наблюдаются и сегодня. Вот и делается все возможное, чтобы перевести обсуждение в другую плоскость. Надо признать, что десталинизация белорусского общества не произошла. Девальвация ценности человеческой жизни случилась в советское время, и эта традиция продолжается до сих пор.

Читать полностью: http://naviny.by/rubrics/society/2015/02/12/ic_articles_116_188213/

## Мясникович предложил заменить белорусских швей бангладешскими

Экс-премьер министр на новой должности стал регулярно «радовать» новыми предложениями по улучшению экономической ситуации в стране. 4 года проработал **Михаил Мясникович** в должности главы правительства. Вряд ли многие белорусы согласятся с тем, что в эти годы в стране наблюдался экономический рост, подъем производства, не говоря уж о реальном росте доходов. Недавно председатель «совета республики» удивлялся кошмарному положению «Гомсельмаша». Резонно заметить: а что ж он делал в то время, когда завод «загибался»? Находясь в роли премьер-министра. Теперь у ветерана

белорусской политики новая должность. Не слишком обременительная, ведь нынче Мясникович в «парламенте» не очень занят. Посему может раздавать советы «космической важности» и огромной важности для поднятия с колен белорусской экономики. На совещании по вопросу наращивания экспорта продукции белорусских предприятий в Индию, Непал и Шри-Ланку он заметил *«Может, тогда нам пойти на лицензионное производство многих белорусских товаров в этом регионе? Это, наверное, в меньшей степени касается Индии, но для остальных трех государств — вполне приемлемая вещь».* И добавил, что белорусские производители обуви и трикотажа специально посещали Бангладеш. *«Причем, как мне говорили в «Беллегпроме», производство европейских товаров там стоит $15-20, а продается потом вещь за 100 евро»,* — заметил Мясникович.

# Ледовый дворец на родине Лукашенко никак не достроят

**В Шклове остановилось строительство ледовой арены. При этом чиновники обещали, что в апреле она примет первых посетителей.** Жители райцентра полагают, что снова закончилось финансирование, поэтому работы и остановились. «Четыре года строят. Если бы деньги были, то, видимо, этот объект на родине президента в первую очередь закончили бы, - говорит пожилого возраста житель Шклова, дом которого располагается около строительной площадки. - Кто-то тогда хотел выхвалиться перед президентом. Лучше бы для молодежи семидесятиквартирный дом построили. Прежде всего нужен угол, а потом развлечения. Для такого города, как наш, ледовая арена - очень большая роскошь».

Возводить ледовую арену в Шклове начали во второй половине 2010 года. Через год обещали объект сдать в эксплуатацию. В начале строительство оценивалось в более ста миллиардов рублей. Но в течение четырех лет оно то останавливалась, то возобновлялось. В прошлом году руководство райисполкома после возобновления стройки заявляло: до апреля 2015 года арена примет первых посетителей.

Молодой житель Шклова Ярослав Феско сомневается, что завершить стройку удастся за два месяца. Ведь чиновники обещали скорую сдачу объекта, чтобы успокоить жителей райцентра, на глазах которых не один год тратятся средства:

«К лету ледовую арену не достроят, а возможно, и до конца этого года. Не найдут они денег. По мелочи что-то будут там делать, а по полной браться никто не будет».

Два года назад Ярослав вместе с друзьями собрал около сотни подписей, чтобы ускорить строительство арены. Тогда молодежь охотно подписывалась. Вскоре после сдачи подписей в райисполком строительство арены возобновилось. Сейчас снова простой. Ярослав отмечает, что шкловская молодежь хочет иметь ледовый дворец - такой, как в Могилеве, Бобруйске или Горках:

«Если исходить из предположения «пусть будет», то пусть будет. Однако, если брать экономику Шклова, то вкладывать деньги в нерентабельный проект - это же ерунда».

В Шкловском райисполкоме получить комментарий об очередном приостановлении работ на ледовой арене не удалось. В частных беседах чиновники уверяли: как только будет финансирование, строительство возобновится.

В 2012 году строители не скрывали, что выделенные на арену деньги пропали зря из-за высокой инфляции.

***Радио "Свобода"***

Рэдактар П.Мігурскі Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад: 299 ас.
Адрас: 213018 Магілёўская в., Шклоўскі р., в.Дабрэйка. Тэл. 8 02239 92618
E-mail: agro56@tut.by. РАСПАЎСЮД БЯСПЛАТНЫ. Падпісана ў друк 14.02.2015г.